ВОСЬ УЖО ГЭТЫЯ ЯПОНЦЫ

## Зялёная гарбата і... забудзьцеся пра карыес

Навукоўцы выявілі, што значную ролю ў захаванні зубоў адыгрываюць не толькі фтор і кальцый, якія ў вялікай колькасці утрымліваюцца ў зубных пастах, а і поліфенольныя злучэнні. Асабліва адно з іх —галакатэхін. Нядаўна японскія біяхімікі ўпэўніліся ў тым, што гэта рэчыва ў вялікай колькасці утрымліваецца ў настоі зялёнай гарбаты, якая замаруджвае рост і размнажэнне мікраарганізмаў, што разбураюць зубную эмаль. Калі пасля кожнага прыёму ежы вы будзеце выпіваць кубачак зялёнай гарбаты, гэтым самым вы поўнасцю абароніце свае зубы ад разбурэння. Аднак гэта "вынаходка" не была нечаканай, яшчэ старая японская прымаўка сцвярджала: "Зялёная гарбата ачышчае рот".

## Фукувока рэкамендуе разводзіць... пустазелле!

Фермер і вучоны Фукувока дзесяцігоддзямі вывучае ўплыў пустазелля на ураджай і якасць садовых і агародных культур. Ён даказвае, што пустазелле знішчаць (палоць) нельга, бо гэта вядзе да недабору ўраджаю, зніжае якасць прадукцыі. І ні ў якім разе не прымяняць гербіцыды.

Даследчык лічыць, што пустазелле, як і ўсё ў прыродзе, выконвае сваю функцыю спаўна. Яно ўдзельнічае ў стварэнні выдатнай глебы, збалансаванасці яе па біялагічнаму саставу. Не знішчаць пустазелле, а толькі стрымліваць яго рост. Для гэтага ёсць спецыяльныя машыны (такія "машыны" на Беларусі — каса, серп і нажніцы). Мульчу не збіраць, а раўнамерна раскладваць. Пад уздзеяннем тэмпературы і вільгаці трава хутка дае неабходнае культурным раслінам угнаенне.

Фукувока рэкамендуе ў садзе стварадць зялёны дыван з абавязковым падсяваннем белай канюшыны. Замест канюшыны можна сеяць лубін, віку, люцэрну. Пры цяпле і вільгаці ўсё расце хутка. Скошвайце траву ад цвіцення ці ў пару цвіцення і пакідайце пад дрэвамі. Гэта будзе якраз той гной, за які сёння просяць ці не мільён. Адна неабходная умова: зямля ўвесь час не павінна пакутаваць ад нястачы вільгаці. Інакш дрэвы і травы ўступяць у спрэчку за... ваду. І тады ўжо не да ўраджаю і якасці.

Як быць з градкамі? Скажам, нашай морквай з яе нетаропкасцю на этапе прарастання і першага месяца развіцця? Аказваецца, і тут ёсць выйсце. Усе культуры, якія развіваюцца вельмі павольна (у іх ліку і морква), трэба папярэдне замачыць, трымаць у вільготным стане да "наклёўвання". "Наклюнулася" — касу ў рукі і косім траву як мага ніжэй, злёгку рыхлім (а можна гэтага і не рабіць!) і сеем нашы культурныя расліны, накрываем мульчой. Пустазелле давядзецца падрэзаць яшчэ адзін ці нават два-тры разы. Ураджай будзе не вельмі выдатным па вазе, але найцудоўнейшым па якасці.

У сваім гародзе японскі даследчык вырошчвае менавіта такім метадам цыбулю ўсіх відаў, рэпу, рэдзьку, часнок, агуркі, памідоры, фасолю і шмат чаго іншага. І нязменна з пладамі, якія не пакутуюць ад хвароб і шкоднікаў (ці бачылі вы фітафтору на лясных палянках?), а таму надзвычай смачных і сакавітых.

Асабліва Фукувока ў захапленні ад бульбы. Расліна вельмі моцная, усіх падпарадкоўвае ў час развіцця. Магутнае лісце стварае на зямлі ноч на працягу сутак. Пустазелле амаль не расце. Клубні бульбы не вельмі вялікія, але чыстыя і ад паршы, і ад фітафторы. І каларадскія жукі абмінаюць пасадкі. Вучоны абавязкова пакідае ў глебе клубні. Яны развіваюцца самі па сабе. І заўжды пасадкі чыстыя, бо бульба нікога не церпіць каля сябе. А калі і вылезуць асот ці крапіва, іх тут жа падразаюць.

УСЁ ЯШЧЭ НЕ ЯСНА

## НАШЛИ НОЕВ КОВЧЕГ?

Еще в 1916 г. русский военный летчик увидел на заснеженном склоне горы Арарат необычное деревянное сооружение. Его доклад по поводу этой находки вызвал в Петрограде настолько большой интерес, что было решено провести военно-изыскательскую экспедицию, но выполнению плана помешала Октябрьская революция.

Уже в наше время американская аэрокиносъемка подтвердила наличие там сооружения в виде гигантского параллелепипеда.

Многие годы занимается этой проблемой итальянский инженер Анджело Палего. Он не раз поднимался на Арарат и, как утверждает он, на высоте 4500 м видел этот загадочный предмет. Его размеры: длина 133 метра, ширина 22, высота 13 метров.

Если следовать древнему первоисточнику, то на этом плавсредстве спасалась во время всемирного потопа семья Ноя со своим скарбом и небольшим зверинцем.

По данным научного анализа, возраст сооружения более 4 тыс. лет. (Исследован кусок дерева, отщепленный от каркаса сооружения). Построить его могли в то время, когда уровень моря находился значительно выше нынешнего. Такая версия увязывается с заявлением американских, российских и болгарских специалистов, утверждающих, что потоп произошел в Черноморском бассейне примерно 7,5 тыс. лет назад.

Правда, авторы книги "Земля Адама" доказывают, что остатки Ноева ковчега следует искать на территории нынешней Абхазии, а сооружение на Арарате есть не что иное, как древний храм.

**М.ИЛЬИНСКИЙ.**

ИЗ ОПЫТА

## КАК ИЗБАВИТЬСЯ ОТ МЫШЕЙ

Вот вам совет "старины далекой", которым пользовалась моя бабушка. Наберите головок репейника-лопуха и разложите вокруг мышиных норок. Мыши обязательно зацепятся за колючки и избавиться от "дедов" уже не смогут.

Одни грызуны погибают в конце концов, видимо, от стресса, а другие уходят от гиблого места подальше.

Так просто освободиться от этих нежелательных "квартирантов".

**В.ИВАНОВ.**



*Белы дзень.*
*Фота Валерыя БЫСАВА.*

● Пачытайце, можа прыгадзіцца

## Як вывесці плямы

Маркуючы па рэкламе, вывесці плямы ў наш час — гэта чыстая дробязь. Аднак перш чым бегчы за "фірменным" плямавыводнікам, паспрабуйце выкарыстаць "бабуліны" хітрасці.

**Свежыя садавіна і агародніна.** Нацягнуць тканіну і паліваць кіпнем пляму так, каб вада праходзіла праз тканіну.

**Гарчыца.** Перад мыццём замачыць забруджаныя месцы разбаўленым нашатыром.

**Кава і чай.** Працерці пляму анучкай з нанесенай на яе пастай з соды і вады, або з солі і белага воцату. Цяжка выводныя плямы ад кавы паспрабуйце вывесці з дапамогай вады, лёду і солі, змешаных у тэрмасе.

**Віно.** Густа нанясіце соду на пляму, а затым прамакніце яе. Паўтарыць некалькі разоў. Можна засыпаць пляму соллю, нацягнуць тканіну і паліваць яе праз соль кіпнем.

**Піва.** Калі плямы на белай баваўнянай тканіне, то дайце ім высахнуць і заліце іх перакісам вадароду. Калі тканіна каляровая, то прамакніце плямы губкай, намочанай у белым воцаце.

**Тлушч.** Асцярожна пасыпце пляму талькам, мукой, крухмалам, пакіньце паляжаць. Зняць парашок шчоткай або губкай.

**Кроў.** Замачыць пляму перакісам вадароду (калі тканіна адбеленая) ці развесці нашатырны спірт у халоднай вадзе — для паласкання. Асцерагайцеся гарачай вады — яна "замацоўвае" такія плямы.

**Пот.** Перад мыццём пацерці вобласці плямаў воцатам або акуратна праіпаць іх наскрозь. Далей мыць як звычайна.

**Трава.** Перад мыццём густа змачыць пляму спіртам.

**Клей.** Пакласці на гэтае месца лёд, каб клей стаў цвёрдым і пачаў адлупліваца. Затым накрыць васкаванай паперай і папрасаваць.

**Іржа.** Змачыць лімонным сокам з соллю, а затым прамыць вадой.

**Жавальная гумка.** Паспрабуйце замарозіць яе, а затым асцярожна саскрэбсці тупым канцом нажа.

**Па матэрыялах друку.**

НЕ МОЖА БЫЦЬ?!

## Крокі гісторыі можна разлічыць загадзя

Чалавечае грамадства развіваецца рытмічна: найбольш значныя падзеі гісторыі быццам паўтараюцца праз пэўную колькасць гадоў. Гэтае адкрыццё старажытных мудрацоў нядаўна атрымала навуковае тлумачэнне.

Калі мы прасочым найбольш значныя падзеі мінулага, дык заўважым: ім папярэднічаюць і за імі ідуць падобныя падзеі, але, дарэчы кажучы, з процілеглым знакам: *за трагедыяй ідзе фарс, за ім* — зноў трагедыя і г.д. Гісторыю можна параўнаць з чалавекам, які, зрабіўшы крок, павінен "змяніць нагу". Аказваецца, на Ўсходзе даўно разлічылі велічыню "кроку гісторыі": яна роўная 12 гадам — каляндарнаму цыклу.

Вось толькі некалькі ілюстрацый з расійскай гісторыі. Першая рэвалюцыя пачалася ў 1905 годзе, другая — праз 12 гадоў. І калі першая была суджана на паражэнне, дык другая заканамерна увянчалася поспехам. У 1929 годзе пайшла масавая калектывізацыя ў сельскай гаспадарцы. Праз 12 гадоў пачалася Вялікая Айчынная вайна. Яшчэ праз 12 гадоў — у 1953 годзе — *памёр Сталін*. Такая вяха адметная.

Але, можа, мы выдумалі прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі — а на самай справе некаторыя з іх зусім выпадкова аказваюцца падобнымі адна на адну? Не выключана, але вельмі шмат падобных выпадковасцей бывае менавіта праз 12 гадоў. Яны зусім не з'яўляюцца асаблівасцю толькі нашага жыцця — такі цыкл прасочваецца ў гісторыі ўсіх народаў. Напрыклад, 1933 год парадзіў нямецкі фашызм, а 1945 яго знішчыў. Як бачым, і ў Германіі гісторыя "ходзіць на дзвюх нагах".

Чым жа тлумачыцца гэтая ўніверсальная заканамернасць? На думку старажытных мудрацоў, 12-гадовы цыкл выклікае Юпітэр: за такі час ён робіць поўны абарот на нябеснай сферы. "Крокі гісторыі" можна растлумачыць і з пазіцый сучаснай навукі. Юпітэр — самая буйная і найбольш наближаная да Зямлі планета-гігант. Таму яго гравітацыя выклікае найпамацнейшыя адхіленні фізічных палёў Зямлі, якія ўздзейнічаюць на псіхіку ўсіх людзей, а значыцца — на чалавечую гісторыю.

Кожныя 12 гадоў на нябеснай сферы злучаюцца бліжэйшыя да нас планеты-гіганты Юпітэр і Сатурн. Тады іх гравітацыйныя палі выклікаюць яшчэ больш моцныя *анамаліі на Зямлі*. *Нездарма* 60 гадоў поўны цыкл усходняга календара, за які ўсе гады 5 разоў мяняюць свой "колер": коні, пеўні, сабакі і іншыя бываюць белыя, чорныя вогненныя і г.д.

Гэтыя "колеры" паказваюць, што падзеі не дакладна паўтараюцца праз 12 гадоў. І нават пры супадзенні "колеру" — праз 60 гадоў — падзеі могуць вельмі адрозніваццa. Бо гісторыя, вобразна кажучы, зрабіла пяць крокаў па кругу і стала на ранейшае месца другой "нагой". Калі цяпер перамагае дабро, дык праз шэсцьдзесят гадоў мацнейшым будзе зло — і наадварот.

Але гэта палова поўнага перыяду ў 120 гадоў, на працягу якога Юпітэр і Сатурн сустракаюцца спачатку на адным баку Сонца, а потым — на другім. Паўтор знака (*"плюс" ці "мінус"*) магчымы толькі праз два ўсходнія цыклы па 60 гадоў, калі гісторыя трапіць у ранейшую фазу той жа "нагой".

Але, калі гаварыць дакладней, дык гісторыя рухаецца не па кругу, а па спіралі, і паўтараецца яна на больш высокім узроўні (прагрэс) ці на больш нізкім (упадак). Вось характэрны прыклад: у 1825 годзе царскае самадзяржаўе падавіла масонскае паўстанне дзекабрыстаў, а ў 1945 годзе пад кіраўніцтвам савецкага самадзержца Іосіфа Сталіна СССР *разграміў* гітлераўскую Германію, якой тайна кіравалі акультысты. Як бачым, праз 120 гадоў адбылася падобная падзея: з тым жа знакам, але на больш высокім узроўні.

А вось процілеглы выпадак. У 1993 годзе быў расстраляны з танкаў і падпалены расійскі парламент —праз 60 гадоў пасля падпалу фашыстамі германскага рэйхстага.

Па волі Космасу гістарычныя падзеі вельмі часта аказваюцца падобнымі праз 12 гадоў ці кратныя ім перыяды, а іншы раз падзеі паўтараюцца дзень у дзень па волі моцных гэтага свету. Калі ім вядомы касмічныя рытмы і яны ўзгадняюць з імі сваю палітыку, дык іх улада бывае вельмі трывалай, і наадварот. Ведаючы пра гэта, мы даволі дакладна можам прагназіраваць будучыню.

**Эма НЕСМЯНОВІЧ, геафізік.**
**Міхаіл ДЗМІТРУК, навуковы аглядальнік.**
**"Рабочая трыбуна"**

### Афоризм

*Никогда не бросайся грязью: ты можешь промахнуться, но твои руки останутся грязными.*

**Теодор ПАРКЕР, американский политик.**

## "РЕКОРДЫ ДЕКАБРЯ"

Первый месяц зимы всегда удивлял и огорчал жителей планеты неожиданными погодными скачками. В 1856 г. начало зимы как раз и было таким резко переменчивым по всей России. Температура скакала от оттепелей (0 °С до сильнейших морозов — 40 °С). А в 1879 г. в Центральной Европе стояли такие холода, каких европейцы не наблюдали в предыдущие и последующие 100 лет. Жители Швейцарии, восточной Франции, южной Германии, юго-западной России дрожали от холода. И неудивительно, ведь они совершенно не привыкли жить при температуре 20-25 градусов мороза, какая тогда была. Невероятно холодным почти на всей территории России и в столице был декабрь 1899 года. Люди замерзали на улицах и молились о наступлении оттепели.


### ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік**— працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 23 снежня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2667 экз. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 24.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**